РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 300 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №27 (136), 6 ЛІПЕНЯ 1994 ГОДА.

СЁННЯ:





# ВЫСТАВА ПРАЗ ПЯЦЬ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЯЎ





1 ліпеня ў Нацыянальнай мастацкай галерэі адкрылася выстава "Жыве Беларусь!", прысвечаная 50-годдзю вызвалення нашай краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Удзельнікаў выставы, сярод якіх — прадстаўнікі ўсіх пакаленняў, жанраў і напрамкаў беларускага выяўленчага мастацтва, павіншавалі міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч і сакратар Саюза мастакоў Валерый Даўгала. Хвілінай маўчання ўдзельнікі і госці імпрэзы ўшанавалі памяць усіх ветэранаў, што не дажылі да гэтага юбілею.

Ад імя аргкамітэту выступіў ветэран вайны, народны мастак Беларусі Віктар Грамыка. Ён павіншаваў сяброў па зброі і па мастацтве са святам і падкрэсліў, што гэтая выстава адлюстроўвае і традыцыйнае, і новае бачанне беларускімі мастакамі трагічных падзей сярэдзіны стагоддзя, працягвае "летапіс" Вялікай Айчыннай вайны з розных і часам супярэчлівых пунктаў гледжання. Зрэшты, усе мастакі вераць у вялікую каштоўнасць чалавечага жыцця і схіляюць галовы перад незлічонымі ахвярамі самай крывавай у гісторыі чалавецтва вайны. Віктар Грамыка шчыра падзячыў усім удзельнікам выставы — і ветэранам, і маладым мастакам — і выказаў спадзяванне, што новая генерацыя творцаў працягне адлюстраванне і асэнсаванне барацьбы нашага народа за жыццё і свабоду.

Нарэшце была перарэзана чырвоная стужка і гасцей выставы запрасілі на агляд экспазіцыі. Ніколі яшчэ я не бачыў такога шматлюднага вернісажу: людзей было ў некалькі разоў болей, чым твораў. Аматары мастацтва, сярод якіх былі народныя дэпутаты, міністры, прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу, мелі магчымасць падзяліцца ўражаннямі з аўтарамі большасці твораў, параўнаць савецкі і сённяшні перыяды беларускага мастацтва, а галоўнае — асэнсаваць светапогляд нашага народа (як вядома, мастакі — гэта вочы грамадства), ягонае стаўленне да сваёй трагічнай гісторыі і цьмянай сучаснасці.

Выстава заняла абодва паверхі Нацыянальнай галерэі: на першым экспануюцца графіка і творы дэкаратыўнага мастацтва, на другім — жывапіс і скульптура. Уражвае поліфанічнасць, нават стракатасць экспазіцыі (перадусім, гэта датычыць жывапісу). Творы вядомых мастакоў-ветэранаў са збораў мастацкіх музеяў, вытрыманыя ў канонах сацрэалізму, чаргуюцца з карцінамі маладых мастакоў, многія з якіх працуюць у той ці іншай авангарднай манеры. Творы пра вайну суседнічаюць з творамі пра мір і іншымі, увогуле невядома пра што. Паміж чырвонымі зоркамі часам можна заўважыць "Пагоню". Ёсць карціны без рам і рамы, умоўна кажучы, без карцін (асабліва — пазалочаныя). Безумоўна, добрых твораў шмат, і пералічыць іх у кароткіх нататках немагчыма.

Сярод тых, што запомніліся найбольш, — два плакаты У.Жука, якія сустракаюць наведнікаў пры ўваходзе і выхадзе, нібыта рэзюмуючы не толькі саму выставу, але і пяць дзесяцігоддзяў нашай гісторыі. На першым — Беларусь раздзіраюць драпежныя свастыка і чырвоная зорка. На другім Беларусь — як акно ў блакітнае неба між чужымі аблокамі.

Юрась БАРЫСЕВІЧ.

*На здымках:* М.Апіёк "Галгофа"; на адкрыцці выставы.

Фота Генадзя Жынкова.

ПАЛІТЫЧНЫ БАРОМЕТР

# НАПЕРАД... У НЕВЯДОМАСЦЬ?

Усе надта гучныя і настойлівыя сентэнцыі маюць адну асаблівасць: чым часцей яны паўтараюцца, тым горш спрацоўваюць. Чым больш пераканаўча сцвярджае наш прэм'ер, што ў сённяшнім развале эканомікі вінаватыя развал эканамічных сувязей з прадпрыемствамі былога СССР, дэмакраты, надвор'е і г.д., тым больш страсна адчувае просты чалавек, што яго дурань і што віною ўсяму тыя, хто раз'язджае ў лімузінах і раскрадае тое, што яшчэ засталося.

Мы праехалі па некаторых раёнах — Навагрудскім, Лідскім, і ўсюды, размаўляючы з грамадзянамі, чулі амаль адно і тое ж:

— Прыйдзе Лукашэнка, усіх пасадзіць!

— А што далей?

— А далей будзе добра. Не будуць красці — зажывем нармальна. Што ў нас, рук няма?

— А што менавіта з эканамічнай праграмы Лукашэнкі падабаецца вам болей за ўсё?

Вось тут наступала паўза. Пасля раздавалася няпэўнае:

— Ну, ён, гэта... адновіць сувязі з Расіяй. Заводы запрацуюць, людзі болей будуць атрымліваць. А злодзеі — сядуць!

— А за кошт чаго стануць працаваць заводы? У Расіі ж таксама беспрацоўе.

Высвятляецца — толкам пра эканамічную праграму верагоднага прэзідэнта не ведаюць. "Стане добра" — вось лейтматыў усіх гаворак. І ўсюды набалелае: прыйдзе — пасадзіць "прыхватызатараў".

Улады ў разгубленасці — чым болей спрабуюць даказаць людзям, што няма ў Лукашэнкі трывалай эканамічнай праграмы, тым болей актыўна збіраюцца тыя галасаваць за "барацьбіта супраць мафіі". Не будзе бензіна, каб даехаць да запаветнай урны? Дойдзем пехатой, даедзем роварам...

Відавочна, што такія настроі яскрава паказваюць, як абрыдла народу не зразумелае яму становішча — не тое ідуць нейкія там рэформы, як гаворыць урад, не тое мы ўсё яшчэ падаем у бездань, як гавораць радыкалы. Апошнія гавораць мудрагеліста, ужываюць розныя там "стагнацыя", "люстрацыя" і г.д.

Лукашэнка ж ясна і дакладна: "пасадзім". Стыль ягоны гранічна зразумелы: "Трэба вярнуць бабцы яе грошы"; "Прыватызацыя... павінна праводзіцца перш за ўсё для тых, хто страціў свае ўклады на ашчадных кніжках"; "Мы павінны задушыць інфляцыю і абмежаваць рост цэн". І дарэмна пакуль што разводзіць рукамі і пытацца: "Адкуль возьмуцца на ўсё гэта грошы, калі адзін толькі доўг Расіі за паліва ўжо складае сотні мільярдаў рублёў? Ці доўга можна трымаць эканоміку "дзяржаўным рэгуляваннем цэнаўтварэння"? Хто будзе правяраць карумпаваных чыноўнікаў і даваць "адпушчэнне грахоў"? І калі сёння "з нашым урадам сёння проста ніхто не хоча размаўляць", то якая такая прычына прымусіць Ельцына і Чарнамырдзіна ўсё-ткі размаўляць і рабіць агульную палітыку з Лукашэнкам?!"

На гэтыя простыя пытанні пакуль што няма адказу. І ціха сціскаецца ў трывожным і нават роспачным чаканні пужлівая інтэлігенцкая душа. Ёй добра вядомыя гістарычныя аналогіі, і, калі ў прэсе мільгаюць спасылкі на цудоўны кітайскі вопыт спалучэння сацыялізму з ростам вытворчасці, яна ўспамінае плошчу Цяньаньмынь і не менш цудоўны вопыт перавыхавання інтэлігенцыі ў калгасах і на фермах, у выніку якога культура і навука Кітая былі адкінутыя далёка ў сярэднявечча...

Яна таксама задае сабе пытанні: "А ці правяралі ўвогуле ўрачы-псіхіятры кандыдатаў у "бацькоў нацыі"? Ці здаровенькія тыя хаця? Чаму, падобна кітайскім імператарам часоў глыбокай старажытнасці, адзін з магчымых "быцькоў" увесь час гаворыць пра сябе ў трэцяй асобе: "Лукашэнка не ідзе да ўлады з панцырам... "каманды", "як толькі Лукашэнка стане прэзідэнтам", "Лукашэнка А.Г. схапілі за рукі" і г.д.?

Вырашыўшы ўвогуле не галасаваць, яна, гэтая інтэлігенцкая душа, пераводзіць вочы з аднаго кандыдата на другога, жмурыцца і трасе галавой, як пасля ачмурэння. А што тут, на гэтым, згрызеным да апошняга карыснага каліўца, знаёмым полі? А тут абяцанні адправіць на ціхую пенсію найбольш жвавых памагатых, таксама заняцца (чамусьці толькі цяпер) навядзеннем парадку і паўторныя клятвы ў любві да Расіі. Пляткары шэпчуцца, нібыта і сапраўды адзін з былых цэкоўскіх салаўёў быў не дапушчаны нават да стала і выгнаны з недрукуемымі каментарамі, нібыта адзін з міністраў (ці адзін?) шукае сабе цёплае мястэчка ў камерцыйнай структуры... Што нам, простым грамадзянам, да падзення ці ўзвышэння кебічаўскіх свяціл? Што нам да таго, ці знойдуць яны чым карміць сваіх добра ўладкаваных дзетак? Знойдуць! Варта табе нарадзіцца дачкой першага намесніка міністра, і ты, драўляна паўсміхаўшыся з экрана, будзеш уладкаваная ў найлепшую рэдакцыю БТ, на зайздрасць дочкам калгасніц, якія гадамі "ішачаць" на тым самым БТ, падабаючыся хіба толькі публіцы! Варта табе быць сынам зама ці зага, як цябе мігам сунуць у ведамства, якое кандыдат у прэзідэнты крытыкуе найбольш жорстка, бо яно мае справу не з драўлянымі і нават не з расейскай "амаль валютай"...

Сумна і на гэтым полі, панове! Ну, патрасуць тут чыноўнікаў, пасыплюцца яны, як спелыя грушы. На нашы плечы прыйдуць новыя. І якімі будуць новыя, ведае толькі Бог...

Некалі пры атрыманні Нобелеўскай прэміі Альбер Камю параўнаў сябе з пасажырам карабля, які імчыцца ў цёмнай начы ў невядомым напрамку. У ілюмінатар плешчуцца чорныя хвалі, і невядома, ці стаіць на мосціку капітан.

Куды, у якое Невядомае, імчыцца наш карабель?!

**В.М.**

# ПРЫХВАТЫЗАЦЫЯ ПЕРАМОГІ

Напэўна, кожны чытач "Культуры" перад тым, як прачытаць гэтыя радкі, даведаецца са сродкаў масавай інфармацыі пра інцыдэнт, што адбыўся ў мінулую нядзелю на праспекце Скарыны. Я не хацеў бы рабіць асноўны націск на самім факце процістаяння насьбітаў камуністычнай ідэалогіі і адраджэнскай ідэі. Але выклікае здзіўленне і спачуванне проста апантанае жаданне некаторых людзей "прыхватызаваць" перамогу над фашызмам ці не як сваю асабістую заслугу. У гэты святы дзень мы ўсе былі роўныя перад памяццю нашых дзядоў, бацькоў, братоў — тых, хто аддаў сваё жыццё ў змаганні з нямецкім фашызмам, і тых, хто выжыў у гэтай страшэннай вайне. З той толькі розніцай, што калоне ветэранаў пад бел-чырвона-белымі сцягамі не далі прайсці да помніка Перамогі, каб ушанаваць памяць палеглых у другой сусветнай вайне. Якраз таму, што гэта былі дзяржаўныя сцягі...

Як спекуляцыю на чужой крыві акрэсліў на заўчорашняй прэс-канферэнцыі лідэр БНФ Зянон Пазьняк дэманстрацыю ваеннай сілы у выглядзе міліцэйскіх падраздзяленняў падчас святкавання Перамогі. "Большага хамства, подласці, большай зняваги да свайго народа я яшчэ не бачыў", — сказаў ён.

І як гэта не жудасна, прыходзіцца прызнаць, што чырвоны сцяг перамогі набывае карычневае адценне.

**Наш кар.**

# ДОКШЫЦКІЯ ВЕРАБ'І
## (Амаль лірычная замалёўка)

Яны прасочваюцца ў чаргу, што сабралася ў малочным аддзеле, як вопытныя дыверсанты — спачатку займае гэтую чаргу адзін, самы маленькі, пасля, ужо перад самім прылаўкам, з'яўляюцца яшчэ пяцёра — васьмёра. Агрызаюцца на папрокі разгневаных жанчын, а то маўчаць, ціснуцца адзін да аднаго, калі прадаўшчыцы ў чарговы раз гнеўна крычаць: "Хто ў другі ці трэці раз, не дамо! Прыходзьце пасля абеду!"

Хлопчыкі маўкліва хапаюць падрыхтаваную для насельніцтва норму выдачы тварагу — адзін кілаграм і, махаючы поліэтыленавым пакецікам, выслізваюць за дзверы. Калі магазін зачыняецца на перапынак, яны цярпліва чакаюць, пасеўшы на лаве непадалёку — шустрыя, як вераб'і, гатовыя па першым знаку старэйшага выслізнуць і ўцячы ад небяспекі.

— Нашто вам столькі тварагу? У сям'і шмат народу?

Маўчаць. Адказвае старэйшы:

— А мы яго возім. У Расію.

— І далёка?

— Хто куды. У Смаленск. У Маскву.

— А я — у Ленінград! — гаворыць маленькі. Ён так і гаворыць: не Санкт-Пецярбург, а менавіта Ленінград. Аказваецца, так гаворыць яго брат. Старэйшы, з якім ён і ездзіць з Докшыцаў прадаваць той тварог. Ці вялікая партыя? Звычайна кілаграмаў восемдзесят. І гэта выгадна — паўтары тысячы расійскіх рублёў за кілаграм.

Хлопчыкі ажыўляюцца — іх не папракаюць, проста пытаюцца. І яны ахвотна дзеляцца сакрэтамі свайго рамяства:

— Мы спыняемся ці ў гасцініцы, ці ў родзічаў. Гасцініца ў Ленінградзе то 20 тысяч, то 40. А прывозім за паездку сама меней паўтара мільёна...

Прадаўшчыцы ў магазінчыку насупраць атрымліваюць каля 200 тысяч у месяц. За рогам — магазін для ветэранаў, і старыя людзі доўга ў задуменні стаяць перад маршчыністымі качкамі, падобнымі больш да мумій у егіпецкіх аддзелах музеяў. Кошт качак астранамічны для пенсіённых грошай. І ўсё ж пенсіі ў ветэранаў пад 300 тысяч — болей, чым у тых, хто працуе.

Што прадаецца ў "ветэранскім" магазіне з таго, чаго няма ў астатніх? Мне называюць — масла, "Белавежскую". Не, ветэранам яе не прадаюць — але побач яе можна купіць свабодна. Відаць, магазін служыць больш сімвалам — асаблівага клопату пра тых, хто заваяваў Перамогу.

Сімвал клопату — лозунг над галоўнай докшыцкай вуліцай. На адным баку напісана "Слава победителям!". На другім —па-беларуску. Двухмоўе ў дзеянні... Можа, гэта і сграе чыюсьці душу. Але каля таго ж "ветэранскага" магазіна дыялог:

— У мяне бацька загінуў, я рос без яго. І мне льготы не паложаныя... А ў суседа (называецца прозвішча) і бацька цэлым прыйшоў, і ён меў усе гады дэфіцыты, і масла цяпер яны маюць. А мне што?

Паказваецца кукіш, складзены нягнуткімі рабочымі пальцамі... І субяседнік таксама пералічвае тыя дэфіцыты, якія яшчэ ў даваенныя гады купленыя суседзямі па сённяшняй ветэранскай чарзе і якія ён купляў утрая даражэй і яшчэ кланяўся за гэта не аднаму начальніку. І ён з тых сірот, чые бацькі з вайны не вярнуліся, і ён ніякіх ільгот не мае... Згода, што ветэранам патрэбны клопат. Але, каб не нашая беднасць, не трэба было б ім атрымліваць і несці праз непрыязныя позіркі нашы вечныя дэфіцыты... На сервелат цяпер у іх грошай ужо не хапае, дык платай за пралітую некалі кроў — дэфіцытнае масла...

У гэтым, вядома, няма віны докшыцкіх уладаў. Яны робяць, што можна. Невялічкія крамы тут, як і вуліцы, чысценькія, і ў іх ёсць тое, чаго ў іншых раённых цэнтрах днём з агнём не знойдзеш: напрыклад, улетку мёд, узімку — салёныя грыбы. І круглы год смятана і нават адыгейскі сыр. І тварог, хаця і па кілаграму ў рукі.

Вядома, тыя, хто возіць яго ў Расію, не спыняюцца перад суровымі забаронамі. Дый ці справа прадаўшчыц быць за ахоўніц? І ў каго павернецца язык рабіць гэтым дзецям заўвагі? Народ пастаўлены ў такія ўмовы, што выжываць яму трэба самому. А значыць, ён і будзе круціцца і шукаць выйсця.

Аб'яднаюць грашовыя сістэмы, як прапануюць у якасці ўваходу ў рай нашы кіраўнікі, — грошай народу не дадасца, але, калі закрыецца гэтая дарожка, якою наша насельніцтва спрабуе вылузацца з жабрацтва, яно знойдзе іншую. Вядома, не ўсё насельніцтва — пакуль што дух гандлярства ў нас не вітаюць, і на перакупшчыкаў глядзяць, як на аферыстаў. А калі мы збяднеем да мяжы, за якой будзе стаяць пытанне аб выжыванні ўвогуле? Што тады станецца з нашымі маральнымі крытэрыямі? І з нашымі вечна пакорлівымі адносінамі да любой улады, нават самай бяздарнай, якая збіраецца свае памылкі перакласці на плечы Расіі і за ёю схавацца?

І што станецца з гэтымі дзецьмі, з гэтымі докшыцкімі вераб'ямі, якія пакуль бадзёра клююць зярняткі, падкінутыя абставінамі? Пойдуць яны на зямлю, дзе кожны кілаграм зерня ці гародніны даецца цяжкай працай, альбо ў майстэрню, альбо на завод, альбо, прывыкшы да выгадных камерцыйных пералётаў, пачнуць шукаць зярняткі там, дзе яны не пакладзеныя і не рассыпаныя лёсам?

А пакуль яны чакаюць перапынку, каб ізноў уплішчыцца ў чаргу па тварог і збіраць свае пералётныя порцыі...

**Таццяна ДАЛГОВА.**

# ЧАЛАВЕК... ПАЎГОДА?

Калі б мы, па прыкладзе Астанкінскага тэлебачання, выбіралі "Чалавека тыдня" ці яшчэ нешта падобнае, то, мабыць, на званне "Чалавека паўгода" мог бы прэтэндаваць, без аніякага сумнення, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны шаноўны Адам Мальдзіс.

Мяркуйце самі — Цэнтрам праведзены такія вялікія навуковыя канферэнцыі, як "Яўрэйская культура Беларусі" і "Беларуска-амерыканскія гісторыка-культурныя ўзаемадачыненні", дзе паднята мноства важнейшых для нашай культуры тэмаў. Да ўдзелу ў іх прыцягнуты такія сілы, як Вітаўт і Зора Кіпелі, Янка Запруднік з ЗША, дактары навук Алесь Каўка, Юры Лабынцаў — з Расіі, Рыгор Піўтарак з Украіны, прафесары Ян Насовіч і Міхал Кандрацюк з Польшчы, доктар навук Ніна Брэдэрлоў з Германіі.

Апроч таго, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны прыняў удзел у арганізацыі міжнароднай навуковай канферэнцыі "Культура беларускага замежжа", які прайшоў у Мінску 12 — 13 чэрвеня г.г., а таксама ў "Другіх карэліцкіх краязнаўчых чытаннях", прысвечаных 600-годдзю Міра і Карэліч, 50-годдзю вызвалення раёна, Гродзенскай беларуска-польскай канферэнцыі "Шлях да ўзаемнасці".

Душою ўсіх гэтых вельмі складаных па арганізацыі і высокапрафесійных па ўзроўні падзеяў быў менавіта Адам Мальдзіс. Яго сапраўдны міжнародны аўтарытэт і вопыт пасадзейнічалі таму, што ў арганізацыі Беларуска-амерыканскай канферэнцыі бралі ўдзел салідныя фірмы-спонсары, такія, напрыклад, як фінансавая інвестыцыйная кампанія "Фіко", "Згуртаванне прадпрымальнікаў Беларусі" ў асобе яго старшыні М.Люцко, "Фонд Сораса-Беларусь", банк "Магнат" і іншыя. Нездарма на адкрыцці канферэнцыі намеснік міністра культуры і друку Генадзь Бураўкін сказаў наступнае: "Сярод мноства канферэнцый, якім радуецца наша Беларусь, гэтая самая прадстаўнічая. У адносінах да Амерыкі мы апошнім часам гаварылі аб раззбраенні. Я сказаў бы, што нам прыйшоў час узбройвацца — узаемнай культурай, веданнем адзін аднаго. Тры рысы, на маю думку, яднаюць нашы народы — гэта дэмакратычнасць, працавітасць, талерантнасць. Калі нам на шляху да дэмакратыі будзе дапамагаць вопыт народа з выдатнымі традыцыямі выдатнай працы, мы абавязкова даб'емся поспеху".

**Наш кар.**

# СКАНДЫНАВІЯ ЗУСІМ БЛІЗКА

Пабываўшы на заключным канцэрце I Міжнароднага фестывалю фальклору, праглядзе балета "Стварэнне свету", у Хатыні і Міры, нашы госці з Даніі ўвачавідкі ўбачылі самабытнасць народа Беларусі і яго культуры. Але Уфэ Ларсена, дырэктара інстытута эканомікі, Ханса Ларсена, старшыню Трэдюніёна краіны, і Нільма Бастхольма, галоўнага рэдактара газеты "Моргенавізэн", найбольш цікавілі ў Беларусі праблемы барацьбы з беспрацоўем і перападрыхтоўка кадраў, а таксама, праца прафсаюзаў па абароне работнікаў культуры. Таму ў Інстытуце праблем культуры адбылася іх сустрэча з прадстаўнікамі беларускіх прафсаюзаў, тэлебачання і нашай газеты.

Далучаемся да думкі прарэктара інстытута Віктара Шамшурына, які вёў гэтую сустрэчу, што такія кантакты надзвычай карысныя для абодвух бакоў. Па сутнасці, мы зусім мала ведаем не толькі пра сённяшнія, агульныя для ўсёй Еўропы, праблемы культуры, але і проста пра жыццё і побыт двух нашых народаў, якія знаходзяцца зусім недалёка адзін ад аднаго і якія ў старажытнасці, калі па нашых землях праходзіў шлях "з варагаў у грэкі", былі нашмат бліжэй, чым сёння, у век касмічнай сувязі і авіялайнераў...

**Наш кар.**

# КАЛІ Б Я БЫЎ ПРЭЗІДЭНТАМ...

*Калісьці ў "Литературной газете" існавала рубрыка "Калі б дырэктарам быў я...", дзе за часамі наменклатурнай алігархіі выступалі з рознымі прапановамі простыя людзі, здольныя мысліць па-дзяржаўнаму, хаця і далёкія ад рычагоў улады. Часы, як вядома, змяніліся, пакрысе мы набліжаемся да дэмакратыі, дзе вытокам улады з'яўляецца шэраговы грамадзянін, дзе кожны мае права прэтэндаваць на вышэйшую пасаду ў дзяржаве або, прынамсі, штосьці параіць дырэктару (прабачце — прэзідэнту) краіны. З прапановай уявіць сябе першай асобай дзяржавы мы звярнуліся да самых розных людзей і вось што пачулі:*

**СЯРГЕЙ БАРЫСЕВІЧ,**
**супрацоўнік замежнай фірмы:**

— Калі б я стаўся прэзідэнтам? Я запытаў бы сябе: "Чаму я не Зянон Пазьняк?" Я нават лепей пагадзіўся б быць Пазьняком, чым прэзідэнтам. Бо прэзідэнтам можа быць кожны ёлупень, а Зянон Пазьняк ёлупнем не быў і ніколі не будзе.

Напэўна, у другім туры народ абярэ прэзідэнтам найбольш галасістага і па-бацькоўску строгага, бо Рыгоравіч абяцае абараніць ад усіх ворагаў. Канешне, не хацелася б, каб Лукашэнка ператварыўся ў "беларус-башы" накшталт Ніязава ў Туркменістане. Мяне ўсцешыла ягоная фраза аб неабходнасці найшчыльнейшай інтэграцыі з Расеяй "аж да стварэння сумесных прадпрыемстваў на ўзаемакарысных падставах". Пад такім прэзідэнтам будзем жыць калі не заможна, дык весела.

**СЯРГЕЙ ШЫЛАЎ,**
**старшыня рэспубліканскага выканкама партыі Падтрымкі СНД:**

— Нашую партыю мы заснавалі напярэдадні выбараў на ўстановачным з'ездзе, які адбыўся 21 чэрвеня ў Мінску. Галоўная мэта партыі, адлюстраваная ў праграме, — ператварэнне Мінска ў буйнейшы інфармацыйны і камерцыйны цэнтр СНД. Мы выступаем за ўсе магчымыя інтэграцыйныя працэсы вакол Беларусі і Мінска: за Чарнаморска-Балтыйскі, Еўраазіяцкі ды іншыя формы аб'яднання дзяржаваў. Найбольш мы зацікаўленыя ў захаванні СНД як гаранта немагчымасці адраджэння СССР.

Калі б я быў прэзідэнтам, дык у першую чаргу заняўся б развіццём сталіцы Садружнасці. Трэба стварыць усе ўмовы для дзейнасці міжнародных грамадскіх арганізацый і інвестыцыйных фондаў, міждзяржаўных і прыватных кансалтынгавых установаў, прадстаўніцтваў замежных фірм і банкаў. Трэба зрабіць так, каб грошы на ўсім абшары СНД працавалі менавіта адсюль. А дзякуючы эканамічнаму буму ў адным толькі Мінску можна будзе выцягнуць з крызісу ўсю рэспубліку, бо інфраструктура нашай краіны вельмі цэнтралізаваная, і гэтым трэба скарыстацца.

**ЛЯВОН ВОЛЬСКІ,**
**лідэр рок-гурта "Мроя":**

— Па-першае, я не хацеў бы ў гэтай краіне быць прэзідэнтам, бо наш народ мае трохі іншыя прыярытэты. Калі ж уявіць сабе немагчымае, дык я зрабіў бы ўсё для адраджэння нацыянальнай культуры і вяртання краіны ў Еўропу.

Што я зрабіў бы для рок-музыкантаў? Загадаў бы ў кожным горадзе адкрыць па некалькі рокавых кавярань з бясплатным півам, забяспечыў бы беларускія гурты добрай апаратурай за кошт дзяржавы, а яшчэ прызначаў бы добрую пенсію састарэлым музыкам і ўзнагароджваў бы медалём "За заслугі ў рок-н-роле" беларускіх і замежных выканаўцаў.

**АРСЕН МЕЛІКЯН,**
**прадпрымальнік:**

— Пасада прэзідэнта патрабуе ад чалавека здольнасці арганізоўваць уладу, а таксама выбіраць і рэалізоўваць праекты развіцця краіны. Напэўна, усе вольныя сродкі ды інвестыцыі я ўкладваў бы ў традыцыйна развітыя ў Беларусі галіны прамысловасці: лёгкую, спажыўную і навукаёмістыя. Таксама садзейнічаў бы пашырэнню сферы паслуг: менавіта тут трэба ствараць новыя працоўныя месцы — будаваць гасцініцы, кавярні, майстэрні і г.д. У замежнай палітыцы арыентаваўся б на краіны, якія маглі б стаць сыравіннай базай для Беларусі: інтэграцыю з менш прамыслова развітымі краінамі я лічу выгаднай для нас.

Але першачарговай задачай я лічыў бы рэформу навукова-адукацыйнай структуры. Апірышчам будучыні краіны павінны стаць фундаментальныя веды. Трэба сур'ёзна працаваць з "якасцю" насельніцтва (каб і яно потым ставілася да прэзідэнцкіх выбараў больш сур'ёзна). Трэба стварыць у Беларусі максімальна інтэлектуалізаванае грамадства. Менавіта інтэлект і прафесіяналізм насельніцтва з'яўляецца галоўным рэсурсам Беларусі. Калі зрабіць усё для развіцця мыслення ў народзе, праз 5-7 гадоў гэта дасць большы плён, чым які-кольвек іншы праект.

**АЛЕГ САМОЙЛАЎ,**
**аднавіцель Духоўнай Славянскай Школы:**

— У першую чаргу я сачыў бы за сваім сілкаваннем. Звольніў бы ад улады ўсіх зашлакаваных людзей. Аб чым можа думаць чалавек з трыма падбародкамі? Толькі аб сабе і грошах, а не аб народзе. Па прыкладзе Клінтана я ўзяў бы сабе ў памочнікі 12 чалавек са станоўчым зарадам, якія б абаранялі прэзідэнта ад уплыву адмоўных сіл. Стараўся б трымаць чыстай сваю "раку жыцця", каб у ёй было больш "рыбак".

У палітыцы я прыхільнік аб'яднання ўсіх народаў планеты: лічу, мы яшчэ прыйдзем да новага Вавілону. А ў эканоміцы я накіраваў бы ўсе сілы нашай дзяржавы на вырошчванне і перапрацоўку льну: гэта адзіны экспартны рэсурс Беларусі, які патрэбны ва ўсім свеце. Я вызваліў бы на 5 год ад падаткаў усіх людзей-фермераў, тэкстыльшчыкаў, навукоўцаў, гандляроў, якія займаюцца выключна льном, даваў бы, не шкадуючы, крэдыты на гэтую галіну. У эканоміцы кожнай краіны павінен быць "кулак", які цягне за сабой усё астатняе. Балгарыя апошнім часам, апрача ружаў, укладвае ўсе сродкі ў вырошчванне сланечнікаў. Беларусь магла б стаць галоўным пастаўшчыком ільну ва ўсім свеце.

Мы павінны таксама развіваць высокатэхналагічную прамысловасць, бо жывем на тэрыторыі "мазгоў планеты". Зрэшты, гэта можа пашкодзіць экалогіі, а мы павінны рабіць усё, каб зямля не "злавалася" на людзей, што на ёй жывуць.

**СЯРГЕЙ МІНСКЕВІЧ,**
**паэт:**

— Найперш я скараціў бы напалову бюракратычны апарат, перабудаваўшы сістэму адміністрацыйнага кіравання. Скараціў бы таксама падаткі з вытворчасці і стварыў беспадатковыя зоны, каб прывабіць замежныя інвестыцыі. Сродкі ад скарачэння бюракратыі перавёў бы ў пенсійны фонд.

Я ўсяляк падтрымліваў бы нацыянальную культуру і ўзняў бы патрыятызм да ўзроўню дзяржаўнай палітыкі. Як уявіць сабе гэта на практыцы? Напрыклад, я дамогся б, каб падаткі з камерцыйных выданняў на расейскай мове бралі не грашыма, а ў натуры —кніжкамі беларускамоўных аўтараў. Такі "натурны" падыход датычыў бы і кінапракату, і іншых галін бізнесу і культуры. Я нават адкрыў бы беларускамоўныя крамы, дзе кілбаса прадавалася б танней, чым у звычайных — каб прыахвоціць люмпенізаваны народ да роднай мовы (зрабіць гэта можна праз спецыяльныя ліцэнзіі гандлярам). Лічу, Беларусь павінна мець уласны флот — гандлёвы, турыстычны або... (там пабачым, які ўжо будзе выгадней).

Яшчэ я загадаў бы стварыць у нашай краіне "восьмы цуд" свету: егіпецкую піраміду дагары нагамі, лунны ландшафт ці нейкія штучныя помнікі архітэктуры, каб прывабіць турыстаў з усяго свету. І ўвогуле, я праводзіў бы палітыку дзяржаўнай падтрымкі цікавых ідэй. Урад павінен рабіць усё, каб самыя арыгінальныя, на першы погляд — вар'яцкія ідэі маглі ажыццявіцца, калі яны на карысць Беларусі, калі яны зробяць ёй рэкламу ва ўсім свеце. Улады павінны падбухторваць, а не гасіць інтэлектуальны патэнцыял свайго народа.

Амерыканцы, калі ў іх была Вялікая дэпрэсія, вешалі на хмарачосы гіганцкія выявы ўсмешак, каб падбадзёрыць саміх сябе. І я распрацаваў і ажыццявіў бы дзяржаўную праграму беларускага гумару, бо з песняй і смехам мы жылі б куды прыгажэй.

**ВОЛЬГА ШЧАДРЫНА,**
**хатняя гаспадыня:**

Па-першае, выдала б указ аб прызначэнні на пасаду віцэ-прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Зянона Станіслававіча Пазьняка.

У другім забегу за прэзідэнцкае крэсла ўдзельнічаць адмаўляюся. Сыходжу з дыстанцыі.

**ВІКТАР МАНАЕЎ,**
**акцёр тэатра імя Янкі Купалы:**

"...Я б на весь честной бы мир" — закаціў бы міжнароднае свята зіц-старшыні Фунта! Таго самага, з "Залатога цяляці". Абавязкова адбылося б карнавальнае шэсце, піратэхніка галівудскага ўзроўню, транспаранты — пудзелы, якія нагадвалі б нам некаторых пэўных асоб. Асоб, якія марылі зрабіць кожнага чацвёртага на Беларусі фунтам і вінцікам. Магчыма, каб свята было жвавым, амніставаў бы крышку злодзеяў і карупміраваных асоб на некалькі гадзін. Думаю, што ім гэтага часу хапіла б...

10 ліпеня нікуды не выйду з кватэры. Метэаролагі раюць правесці гэты спякотны дзень на беразе ракі ці ў лесе, а ўвечары, калі ласка, да нас у тэатр.

**АНАТОЛЬ ВАРАКСА,**
**пенсіянер:**

Адразу вырашыў бы праблему з туалетнай паперай у дзяржаве. Прычым была б яна бясплатная. Пакуль бы пачалі добра есці, яе хапіла б нават не на адзін год. Адкуль паперы столькі? Дзякуй Богу, адных праграм у некаторых кандыдатаў — папяровае мора. Перапрацоўваць будзе што: ад айчыннай паперы да галандскай, нават каляровай.

Удзел браць не буду. Мой кандыдат Станіслаў Шушкевіч не прайшоў на другі тур, а больш я не бачу асобы, якая магла б быць прэзідэнтам Беларусі.

**НАТАЛЛЯ МАКАРЭВІЧ,**
**тэхнік ДАІ:**

Адразу ж спыніла б сітуацыю здзеку з вадзіцеляў і супрацаўнікоў ДАІ, як гэта даўно зрабілі ва ўсім цывілізаваным свеце. Прыватнымі могуць быць не толькі бензакалонкі, але і станцыі тэхнічнага абслугоўвання з правам рабіць тэхагляды і нават ставіць пасля машыну на гарантыю. Тады кожны майстар будзе адказваць за сваю працу і жыццё пасажыраў. І не было б такіх чэргаў, як сёння ў нас у ДАІ. Зразумела, што гэтая манаполія распаўсюджваецца не толькі на гэтую галіну, якая можа быць паказальнай мадэллю нашага грамадства. Дзяржаўны інстытут правоў і абавязкаў грамадзян, мякка кажучы, не дасканалы. Другі закон быў бы аб выдачы ўсім сёлетнім выпускнікам ВНУ разам з дыпломам і пасведчання цымбаліста. Яно будзе даваць права займацца кожны вечар звінець рашоткамі ў хатніх халадзільніках, як цымбальнымі палачкамі. Да прыкладу, прыйшлі да вас госці, а наш малады спецыяліст адчыняе свой халадзільнік і як урэжа польку з падкіндэсам!

На жаль, удзел браць не змагу, тутака мне ноты прынеслі, буду развучваць "Марсельезу".

**ВЯЧАСЛАЎ КАШПАР,** бізнесмен,
**грамадзянін Беларусі ў Нямеччыне:**

Адразу адкрыць заслон на выезд за межы Беларусі. Хай хто хоча, з'язджае і паглядзіць, як жывуць у замежных краінах людзі другога гатунку. А мы, беларусы, заўсёды будзем такімі, пакуль не пачнем самі сябе любіць і паважаць. Вядома, на бацькаўшчыне застануцца стоікі, калі не патрыёты, то простыя людзі, якія гонар маюць. Вось тады і могуць адбыцца выбары прэзідэнта. А не чакаць адзінага месіюзбавіцеля, які раптам правядзе разборкі з карумпаванай мафіяй, зробіць роўнымі ўсіх, дасць хлеба і відовішчаў. Каб не адбылося так, што мы як стада толькі і чакаем пастуха з пугай, то 10 ліпеня я ў выбарчы пункт не іду.

**САША ТОЎСЦІК,**
**выпускнік адной з мінскіх школ.**

Ягоная мара — стаць студэнтам юрыдычнага факультэта БДУ. Наперадзе —уступныя іспыты. Падзарабляе, распаўсюджваючы нешануемую нашым урадам газету "Свабода". Будучага "беларускага Катані" сустрэў у пераходзе станцыі метро "Кастрычніцкая" з кіпай незалежнага выдання ў руках... у акружэнні патрульных міліцыянтаў, якія вырашылі правесці цэнзаванне забароненай літаратуры і рабілі занадта ўжо сур'ёзны выгляд пры азнаямленні з разгромнымі свабодаўскімі артыкуламі. Аляксандр, нягледзячы на сваё акружэнне і на тое, што пакуль яшчэ не дасягнуў васемнаццацігадовага ўзросту і не мае права голасу, ад гаворкі не ўхіліўся:

— Калі б я быў прэзідэнтам Беларусі, што б рабіў? Безумоўна, даў бы дарогу маладым, бо сам гэткім з'яўляюся. Менавіта ад нас, маладых, і залежыць здароўе і будучыня грамадства. А яно ў нас хворае. А то пайду я заўтра, прынамсі, на іспыт, а ў мяне каленкі дрыжаць не ад выгляду выкладчыкаў, а ад таго, што, барані Божа, за заўтра мяне ў войска забяруць. І атрымліваецца, што ВНУ для многіх з нас як паратунак на пяць гадоў ад арміі. Гэта раней нам бацькі казалі, што служыць — вялікі гонар і свяшчэнны абавязак. Але армія павінна быць прафесійнай. І павінны ў ёй быць прафесіяналы, такія, як на заводах і фабрыках. Тады маладыя людзі свядома, больш разважліва будуць рабіць свой выбар. Будуць ведаць, што іх чакае вучоба на любімым факультэце, а пасля любімая праца. І ўсё ты гэта будзеш рабіць сумленна і не для галачкі. Ты станеш прафесіяналам у сваёй справе. Ад гэтага мы ўсе толькі выйграем.

І яшчэ я зрабіў бы так, каб за вучобу не трэба было плаціць. А то атрымліваецца, што ты плаціш велізарныя сумы ўсё той жа дзяржаве дзеля таго, каб пасля на яе працаваць, паляпшаць ейны дабрабыт. Абсурд нейкі...

Я падзякаваў Аляксандру за ягоную ўсхваляваную гаворку (дзіва што, быць пад наглядам людзей у форме) і пры гэтым не забыўся набыць пяць нумароў "Свабоды". Сабе, суседзям і знаёмым. Што, праўда, не збіраліся рабіць шаноўныя міліцыянты... Яны былі на варце парадку.

**СЯРГЕЙ І АЛЕНА,**
**студэнты хімфака БДУ.**

Па восені мяркуюць стаць мужам і жонкай. Днямі ў іх скончылася сесія, і цяпер яны выйшлі пазагараць да Свіслачы, аккурат насупраць былога Дома палітасветы.

**СЯРГЕЙ:** Я вялікую ўвагу б надаваў сям'і. Маладой, у прыватнасці. Каб мы спакойна маглі жыць, працаваць, нараджаць, гадаваць, падымаць на ногі дзяцей. Ну хіба не пра гэта зараз думаць трэба? Каб не скіроўваліся ўсе думкі толькі на грошы. Пра гэта не павінна балець галава. А то тады ўсе хваробы пераносяцца на дзяцей. А ў сям'і назіраецца адна толькі нервовасць і напружанасць. І ўсё гэта, безумоўна, адбіваецца на нашым грамадстве. У сям'і павінен, паўтараю, панаваць спакой.

**АЛЕНА** (перабівае і пачынае жартаваць):

Трэба паклікаць на беларускае тэлебачанне Алана Чумака, няхай лепей ён рукамі трохі памахае, чым некаторыя языкамі.

**СЯРГЕЙ:** У нас ужо ёсць адзін "чумак", дык той на ўсё здатны... Нават увесь урад перапужаў. Толькі дыктату нам не трэба.

У гаворку зноў уступіла Алена, і я адчуваю, што простае інтэрв'ю пераходзіць у звычайную сямейную сварку. Выключаю дыктафон і зрываюся з месца на пошукі новых "ахвяр", каб не перашкаджаць "загараць" маладым. Бачна, што гонка за прэзідэнцкае крэсла наклала свой адбітак і на гэтую сям'ю, якая яшчэ ў праекце. У іх ужо зараз назіраюцца рознагалоссі. Аказваецца, не ўзгадніўшы свае дзеянні, маладыя прагаласавалі за розных прэтэндэнтаў: Сяргей — за Пазьняка, Алена — за Шушкевіча.

**ЮРАСЬ ДУБІНА,**
**карэспандэнт агенцтва БелАПАН, пазаштатны аўтар "Культуры".** Днямі прынёс у рэдакцыю свой чарговы артыкул і па-сяброўску згадзіўся падзяліцца сваімі думкамі:

Я, безумоўна, прэзідэнтам ніколі не стану. Дый у мяне няма такога жадання. Але калі памарыць, то першым прэзідэнцкім указам, мусіць, я даў бы іншыя наменклатурныя пасады кіраўніцтву Беларускага тэлебачання. Надакучыла ўжо працаваць на Кебіча і яго каманду. Гэта датычыць і газет, якія таксама знаходзяцца ў руках Саўміна. Таму рашэнне аб дэманапалізацыі прэсы я выдаў бы ў першую чаргу.

Што да эканомікі, я не ведаю нават, чым можна паправіць становішча — не эканаміст. Перш чым рабіць што-небудзь — трэба думаць. А думаць, на жаль, мы яшчэ не ўмеем.

**ІГАР ІГАРАВІЧ —**
**так прадставіўся гэты чалавек.**

Развозіць тавары нейкае фірмы па камках. Ён сядзеў за рулём свайго "Опеля" і чакаў зялёнага святла светлафора, каб імгненна сарвацца з месца. Але я паспяваю працягваць у апушчанае шкло дзвёрак дыктафон, каб атрымаць адказ на пытанне... На што не вядомы мне яшчэ Ігар Ігаравіч ківае галавой і хутка прапануе: "Сядай". Ужо едучы па Мінску, вадзіцель "Опеля" сказаў:

— У палітыку не лезу. І няма мне ў ёй чаго рабіць, разумееш? Хаця жыццё прымушае з ёй сутыкацца так ці інакш. У палітыку кінуліся ўсе, — ад кухаркі да старшынь саўгасаў. (Смяецца.) Усёк? Па-першае, быць прэзідэнтам — значыць, быць заўсёды навідавоку. А гэта не па мне. Няхай я і займаюся нейкім бізнесам, але гэта не азначае, што я зараз буду абараняць камерцыйныя структуры. Не. Але ж, я думаю, пры маім прэзідэнце быў бы мой чалавек, які адстойваў бы маю палітыку на дзяржаўным узроўні. А галасаваў я за Шушкевіча. Свой чалавек. І няхай там людзі пра яго ўсялякае кажуць. Не дала сістэма яму добрую справу рабіць. А жонка за Пазьняка голас аддала. Але чамусьці большасць за імі не пайшла. Баяцца! А значыцца, баяцца і адраджэння, і нацыянальных ідэй. Усё перайначылі.

Тое, што зараз, так бы мовіць, я беспрацоўны, дык няма ў гэтым шушкевіцкай ці пазьнякоўскай віны. Вынікі выбараў вельмі ўразілі. А прагаласаваў за Рыгоравіча хто? У асноўным старыя людзі. Пераменаў захацелася. Крыўдна, за нас, маладых, вырашаюць наш лёс. Дрэнна, што няма ў нас узроставага цэнзу: каб толькі да 50-60 гадоў галасаваць можна было! А то... Няўжо яны зла сваім дзецям жадаюць?..

Апытанне праводзілі
Юрась БАРЫСЕВІЧ,
Жанна ВАСАНСКАЯ,
Міхась РЭВУЦКІ.

# "РАЗМОВА З ШАГАЛАМ"



"Размова з Шагалам" — такую назву мае выстава, што адкрылася 1 ліпеня ў галерэі "Alter ego", якая месціцца ў Беларускім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, пры чынным удзеле галерэі "Брама" (аўтар канцэпцыі выставы мастацтвазнавец Ларыса Фінкельштэйн). Дарэчы, менавіта "Брама" першай у свой час паказала творы Шагала ў Мінску.

Гэтая выстава рыхтавалася даўно. Была прыдумана тэма: размова кожнага удзельніка з Шагалам. Што сучасныя мастакі маглі б інтымна распавесці Майстру? Мы больш ці менш ведаем, што ён кажа нам сваімі палотнамі, а хацелася б нейкім чынам яму адказаць.

У выставе бяруць удзел вядомыя мастакі сярэдняга пакалення з Ізраіля (І.Капелян, Э.Левін, А.Аншэлевіч-Грынберг), Францыі (Г.Хацкевіч) і Беларусі (А.Плісанаў, У.Цеслер, М.Басаў ды іншыя). Пераважная большасць твораў сапраўды пакідае адчуванне прамога ці ўскоснага дыялогу з віцебскім летуценнікам. Напрыклад, У.Стальмахоў выставіў дыптых "Шагал і Бела": састарэлыя каханкі намаляваныя на фоне парыжскага неба, у якім лунаюць анёл і котка. І.Каплуновіч намаляваў "Акуляры для Марка Захаравіча", шыбкі якіх працэджваюць краявід старога Віцебска.

Ларыса Фінкельштэйн павіншавала мастакоў і падзячыла гаспадарам "Alter ego" — Марыне, Вячаславу і Віктару Радавым — за бескарыслівую дапамогу ў арганізацыі выставы, а таксама студэнту Беларускай акадэміі музыкі Сяргею Малчанаву, які ўпрыгожыў прастору выставачнай залы цудоўнай ігрой на альце.

Будзем спадзявацца, што надзея мастакоў на шчырую размову "без пратакола" з Майстрам сам-насам і з усімі аматарамі мастацтва спраўдзіцца. Уражанняў для яе хопіць.

**Наш кар.**

На здымку: дыптых "Шагал і Бела". Уладзіслаў Стальмахоў.

# МУЗЕЙ ШАГАЛА СТВОРАНЫ, ШТО ДАЛЕЙ?

"Ці будзе ў Віцебску музей Шагала?" — гэтае пытанне на працягу апошняга паўдзесяцігоддзя хвалявала многіх, выклікала бурныя дыскусіі, ператваралася ў загалоўкі газетных артыкулаў. Адказ на яго дала сама логіка развіцця постсавецкага грамадства, калі працэс вяртання Беларусі імёнаў адрынутых чыннікаў яе размаітай, шматнацыянальнай культуры зрабіўся незваротным. Зараз у Віцебску створаны мемарыяльны музей Шагала, пастаўлены помнік мастаку, штогод адзначаюцца Шагалаўскія дні, падчас якіх арганізоўваюцца навуковыя чытанні, летам гэтага года адбыўся Першы Міжнародны шагалаўскі пленэр. Якіх высілкаў каштавала справа вяртання Майстра ў радзінны Віцебск — размова асобная, вартая спецыяльнага аповяду. Аднак Дом-музей Шагала ў горадзе існуе, а разам з ім існуе і праблема яго развіцця на бліжэйшую і аддаленую перспектыву.

Наконт бліжэйшай перспектывы ўсё, здаецца, зразумела: рэстаўрацыя дома на Пакроўскай вуліцы, стварэнне ў ім стацыянарнай экспазіцыі, уключэнне музея ў схему рэспубліканскіх і міжнародных турыстычных маршрутаў. Далёкая перспектыва выкліча непазбежнае пашырэнне музея Марка Шагала. Натуральна паўстае пытанне: за кошт чаго? За кошт пабудовы побач з мемарыяльным домам суперсучаснай галерэі? Або стварэння стылізаванага мастацкага асяроддзя кшталту "віцебскага Манмартра"? Зараз дамок мастака на Пакроўскай вуліцы стаіць у адзіноце (гістарычная забудова ўсяго квартала амаль цалкам знішчана), таму прасторы для палёту архітэктурнай думкі нават больш чым дастаткова. Аднак ці з'явяцца калі-небудзь у Віцебску арыгінальныя палотны Майстра, якія маглі б запоўніць цэлую галерэю? І ці трэба намагацца ператварыць Віцебск у Парыж, калі вялікі мастак усё сваё жыццё імкнуўся зрабіць адваротнае?



На нашу думку, плённыя пошукі перспектыў развіцця віцебскага музея Шагала можна весці толькі ў рэчышчы ўзмацнення яго найвялікшай мемарыяльнай каштоўнасці. Бацькоўскі дом мастака не можа быць узноўлены ні ў водным горадзе сусвету! Прастору ж для свайго далейшага развіцця музей можа атрымаць і за кошт рэгенерацыі прылеглага гістарычнага асяроддзя. Зрэшты, толькі аднаўленне старой забудовы Пакроўскай вуліцы здолее вызваліць дом-музей мастака ад неўласцівай і чужароднай яму адзіноты, зрабіць гэты куточак горада пазнавальным для ўсіх, хто знаёмы з творчасцю Шагала. Зірніце на палотны Майстра: той Віцебск, які ведае ўвесь свет, — гэта горад не шматпавярховых камяніц ды ўзнёслых храмаў рэспектабельнага цэнтра, а маленькіх драўляных дамоў, пахілых агароджаў ды крывых вулачак гарадской ускраіны. Тут мастак нарадзіўся і вырас, тут жылі незаможныя яўрэйскія рамеснікі і гандляры — галоўныя героі яго твораў. Менавіта з пластычнага матэрыялу гарадской ускраіны (або гарадской слабады) мастак лепіць свой адметны і пранікнёны міф Віцебска. На яго палотнах пад уздзеяннем міфатворчай ідэі "яўрэйскасці" архітэктурны воблік ускраіны беларускага горада пачатку XX ст. набывае выразныя рысы этнічных прыкмет яе насельнікаў, ператвараецца ў спецыфічны шагалаўскі Горад, узняты да вышынь філасофскага абагульнення.

Разгляд праблем далейшага лёсу домамузея Шагала ў адрыве ад перспектыў развіцця горадабудаўнічай сітуацыі ўсяго гістарычнага раёна Задзвіння ў Віцебску тоіць у сабе вялікую небяспеку. Паколькі сам дом і прылеглая да яго тэрыторыя Пакроўскай вуліцы нават і цяпер не ўключаны ў ахоўную зону гістарычнай часткі горада, па суседству з музеем у любы час бясшкодна можа ўзнікнуць звычайны хмарачос. Больш таго, паводле існуючага плану рэгенерацыі Віцебска, новая магістраль, што разгрузіць транспартны паток цэнтра, павінна прайсці... якраз праз дом Шагала! У такой сітуацыі карэкціроўка існуючай ахоўнай зоны Задзвіння — першачарговая і неадкладная патрэба дня.

Рэстаўрацыя самога дома мастака не вырашае ўсіх праблем існавання музея. Гістарычная аб'ектыўнасць вымагае аднаўлення ўсёй сядзібы сям'і Шагалаў: аднаго мураванага і трох драўляных дамоў. Упісанне сядзібы Шагалаў у кантэкст аднаўленай Пакроўскай вуліцы можа даць Беларусі рэдкі шанец стварэння цэлага экамузея з умоўнай назвай "Гарадская слабада".

На жаль, гарадская слабада як пэўны і самакаштоўны гарадскі аб'ект вельмі мала даследавалася спецыялістамі, увага якіх часцей за ўсё скіроўвалася да больш значных аб'ектаў гістарычных цэнтраў гарадоў. Тым не менш слабада — гэта цалкам

# ІМША БАРЫСА ЗАБОРАВА

**Мастак Барыс Забораў, які жыве ў Парыжы, паехаў з роднага Мінска на пачатку 80-га. На гэты крок мастака, які ўжо тады атрымаў шырокае прызнанне і ў Беларусі, і далёка за яе межамі, прымусіла партыйнае начальства. Чыноўнікі ад мастацтва бачылі ў ягонай творчасці антысавецкія матывы. Яго, напрыклад, папікалі ілюстрацыямі да казак Пушкіна — маўляў, партрэт паэта ў забораўскай інтэрпрэтацыі ёсць не што іншае, як... прапаганда сіянізму. Тагачасны загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Іван Антановіч патрабаваў ад мастака ў якасці індульгенцыі за "грахі" звярнуцца з адкрытым лістом да тых, хто паехаў з Беларусі ў Ізраіль і заклікаць іх да вяртання ў "сацыялістычную айчыну". Калі ілюстрацыі Заборава да твораў Дастаеўскага атрымалі сярэбраны медаль у Лейпцыгу, на цырымонію ўручэння паехаў не аўтар, а чыноўнік з міністэрства... Забораву візу тады не далі. Пазней яго проста выпіхнулі ў эміграцыю.**

**Развітацца з мастаком на вакзале ў Мінску асмеліліся 14 гадоў таму далёка не ўсе ягоныя сябры і знаёмыя... Праз шмат гадоў, калі карціны яго купіць адна з самых прэстыжных галерэй у Парыжы — галерэя Бернара, калі персанальныя выставы мастака пройдуць у Германіі, Японіі, ЗША, іншых краінах, наведацца ў дом Заборава ў Парыжы будзе лічыць за гонар ледзь не кожны, хто прыязджаў сюды з Беларусі. Нават тыя, хто раней не быў, мякка кажучы, гарачым прыхільнікам ягонага таленту.**

**Барыс Забораў, які прыехаў у Беларусь па запрашэнні Міністэрства культуры і друку, падчас Першага Міжнароднага пленэра імя Шагала перадаў у дар Віцебскай карціннай галерэі адну са сваіх вялікіх работ.**

**А неўзабаве павінны адбыцца яго персанальныя выставы ў Мінску, Маскве, Санкт-Пецярбургу. Мабыць, сапраўды адышлі ў мінулае часы, калі дзеля прызнання на радзіме мастаку трэба было памерці?..**

**В.Т.**

Барыс ЗАБОРАЎ

## ВЫСТУПЛЕННЕ НА АДКРЫЦЦІ ШАГАЛАЎСКАГА ПЛЕНЭРА Ў ВІЦЕБСКУ 20 ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА

Каламбур, напісаны некалі на будынку Віцебскага мастацкага вучылішча — "Чтобы каждый так шагал, как Марк Шагал шагал", — сёння набыў змест, які выходзіць за рамкі трапнай гульні са словам, набыў змест павучальны.

Падыходзіць да заканчэння XX стагоддзе, роўнага якому па колькасці назапашанага зла і пралітай крыві не было ў гісторыі чалавецтва.

Першая сусветная вайна, рэвалюцыя, другая сусветная вайна, бясконцыя так званыя "малыя войны"... Быццам бывае вялікая і малая чалавечая кроў...

Можна сказаць, што зло ў XX стагоддзі адваявала неабсяжныя прасторы на плантацыях дабра. Зло здолела пранікнуць нават на раней недасягальную для яго тэрыторыю, імя якой мастацтва, і ў яго найбольш недасягальную галіну — жывапіс.

Не знайсці ў гісторыі мастацтва перыяду, калі б жывапіс быў у такой ступені прыніжаны карыслівым, пошлым і часта злачынным палітычным, дзяржаўным, партыйным інтарэсам. Прыслужванне ідэі распаду, разбурэння і антыгуманізму. Перыяду, калі б з мастацтва з гэткім самагубным фанатызмам выганялася чалавечая асоба, індывідуальнасць — аб'ект традыцыйнай, пільнай увагі мастака.

На гэтым фоне астраўкі мастацтва, што захавалі для нас маральную і спачувальную думку, дзе клопат пра чалавечую душу разумеецца як галоўная справа мастака, астраўкі мастацтва чыстага, якое не патрабуе выкрывання чалавечых болек і недахопаў, але фактам свайго існавання прымнажае і жывіць добрыя пачуцці, — прыцягваюць да сябе, як прыцягвае аазіс у пустыні.

Імя аднаму з такіх аазісаў нашага стагоддзя — Марк Шагал.

Я бачу сімвалічны знак у тым, што гэты кавалак беларускай зямлі, дзе стаіць бацькоўскі дом мастака, абышоў смяротны чарнобыльскі воблак. Тут можна ў сасонніку знайсці чысты баравік, з лясной крыніцы глытнуць чыстай вады, а ў небе ўбачыць, як лунае рамантычны адбітак любві таго, хто сабраў нас сёння ўсіх разам.

**(Пераклаў Віталь ТАРАС.)**

# ІМ — ДЫПЛОМЫ, А НАМ — СВЯТА

## НЕ СТАМІЛІСЯ І ЗАДАВОЛЕНЫЯ

Начальству кампліментаў не робяць. Начальства не хваляць. Тым больш цяпер, калі стала, бадай, нормаю лаяць усіх і ўсё: урад, Вярхоўны Савет, улады на месцах. Я, аднак, мушу парушыць гэтую завядзёнку — дзеля справядлівасці і каліўца праўды ў сучаснай гісторыі культуры. А тое, што Першы міжнародны фестываль фальклору ўвойдзе залатым радочкам у яе аналы, — сумніву няма.

Але ж і фестывалю проста не было б, каб...

— не было ініцыятывы з боку Інстытута праблем культуры;

— каб не дзейсная дапамога ды падтрымка Міністэрства культуры і друку рэспублікі;

— каб не рупная, шчырая праца навукоўцаў ды спецыялістаў;

— каб не энтузіязм ды вынаходкі (чаго вартыя адны толькі пошукі сродкаў на паездку!) саміх удзельнікаў гэтага яркага музычна-спеўнага свята.

А галоўнае, нічога не было б (ці было б не так), калі б не ўзваліў на свае плечы гэтую зацею-падзею — адчайна і годна — горад Пінск у асобе яе гаспадароў — Уладзіміра Цімошчанкі і ягонага намесніка Пятра Цішука.

На правядзенне фестывалю непасрэдна Пінску ўрад не выдзеліў ні капейкі, і кіраўнікі горада мусілі звярнуцца за фінансавай падтрымкай да кіраўніцтва прамысловых, гандлёвых, камерцыйных структур. Многія іх зразумелі — і ў выніку назбіралася тая неабходная сума грошай, якая дазволіла пабудаваць шматлікія пляцоўкі для выступленняў, размясціць людзей (адных удзельнікаў фальклорных калектываў было 1300, не лічачы гасцей), нават сувеніры (і някепскія, як, напрыклад, відэамагнітафон) уручыць любімым гуртам.

"Нацыя жыве, нацыя набірае моцы, калі вяртаецца да сваіх вытокаў, — падкрэсліў на сустрэчы з журналістамі Уладзімір Цімошчанка. — Міжнародны фестываль фальклору, бадай, другая пасля аб'яўлення незалежнасці такая падзея".

Каб жа гэтыя словы ды на праўду выйшлі...

А вось якую аснову выткала-выснавала з уражанняў ад сустрэч у Пінску Соф'я Харытонаўна Малашанка (вёска Янова, Веткаўскі раён, гурт, пра які кажуць: пяюць, нібы матухна-зямля):

— Усяго мы тут пабачылі: і царкву, і касцёл, і людзей. Горад Пінск вельмі прыгожы. Нам па 70 і болей гадоў. Мы многа ездзілі і многа спявалі. Мы не стаміліся і задаволеныя ўсе ўсім.

## ДЗЕЙСТВА-ЧАРАДЗЕЙСТВА

Эмацыянальная палітра ад фестывалю вельмі стракатая. Не бяруся яе апісваць — усе словы нішто ў параўнанні з тым, што бачыла і чула, што светлымі зарубінкамі легла на сэрца. А гэта дзівосныя вяснянкі старых жанчын з надзіва маладымі галасамі з вёскі Янова. Гэта спеўныя імправізацыі Марыі Полагавай з вёскі Морач. Гэта абрад ваджэння Куста, паказаны "артыстамі" з вёскі Ставок. Тут палова калектыву — дарослыя, палова — дзеці. У ставаўлян здаўна ёсць у гэтым абрадзе адметнасць — у зяляніну яны прыбіраюць і водзяць (не толькі на сцэне, а насампраўдзе, па вёсцы, на Сёмуху) не адну, а дзве Панны, і пяюць,

адметны культурны і гістарычны тып асяроддзя, спецыфічная форма існавання нізавой гарадской культуры, своеасаблівае культурнае памежжа горада і вёскі. Ва ўмовах сучаснага горада слабада асуджана на знішчэнне. Часцей за ўсё пазбаўленая ахоўнага статута, яна аказваецца не ў стане вытрымаць канкурэнцыю наступаючых на яе новых гарадскіх аб'ектаў (мікрараённага і індывідуальнага будаўніцтва), паступова асімілюецца і руйнуецца часам. На Беларусі няма ніводнага музея, у якім адлюстроўвалася б культура гарадской слабады: яе жылая (пераважна драўляная) забудова не трапляе ў скансены, бо не прылічваецца да помнікаў народнага дойлідства. Але ж гарадская слабада можа і павінна разглядацца як адзін з паўнавартасных сродкаў прэзентацыі нацыянальнай культуры!

Стварэнне ў Віцебску на базе мемарыяльнага Дома-музея Шагала вялікага экамузея слабады дасць магчымасць захаваць паўсюдна знікаючы тып гарадской культуры Беларусі, сканцэнтраваўшы яго ў адным месцы, ўратаваць раскіданыя зараз па горадзе аўтэнтычныя элементы гістарычнага асяроддзя слабадскога тыпу (асобныя дамы, гаспадарчыя пабудовы, брамы, веснічкі, ганкі, ліштвы і г.д.). Вырашэнне праблемы функцыянальнага напаўнення экамузея вымагае супольнай працы музея — і шагалазнаўцаў, этнографаў, сацыёлагаў, культуролагаў ды іншых спецыялістаў. Думаецца, цалкам дапушчальным было б з'яўленне тут як асобных невялікіх музейчыкаў (напрыклад, гарадскога быту або гандлёвай лаўкі мяжы стагоддзяў), так і сувенірных крамак, міні-гасцініц, рэстаранчыкаў яўрэйскай, беларускай або французскай кухні. У большых мураваных будынках маглі б размясціцца яўрэйскія школа, тэатр, бібліятэка, культурнае таварыства. Аднаўленне мабільнай ї пластычнай прасторы гарадской слабады, у якой кожная брама — ужо, па сутнасці, гатовая дэкарацыя для прадстаўлення вулічнага лялечнага тэатра, дасць магчымасць стварыць іншую прастору — прастору фантазіі, гульні —і падчас святкавання чарговых Шагалаўскіх дзён у Віцебску. Беларуская па форме і яўрэйская па змесце і ладу жыцця шагалаўская гарадская слабада дасць Беларусі унікальны шанц захаваць гістарычны пласт уласнай гарадской культуры, а сусвету — нарэшце знайсці ў Віцебску той горад, які ўсё жыццё натхняў вялікага яўрэя Марка Шагала.

Ідэя стварэння экамузея гарадской слабады на Пакроўскай вуліцы ў Віцебску выспела ў калектыве МДП "Віцебскпраектрэстаўрацыя" ў час працы над эскізным праектам рэгенерацыі гістарычнага раёна Задзвіння (аўтарамі праекта з'яўляюцца архітэктары А.Міхайлюкоў, К.Бражнік, А.Вашкевіч, А.Мароз, І.Роцька, Б.Лядэнка, гісторык Л.Хмяльніцкая, археолаг І.Цішкін). Зроблены толькі першыя, самыя агульныя прапрацоўкі, аднак сацыяльнага заказу на далейшыя даследаванні няма. Pro forma або pro memoria? Гэтую дылему трэба вырашаць ужо зараз. Музей Шагала ў Віцебску існуе ўжо два гады. Што далей?

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

г.Віцебск

*На малюнку:* варыянт графічнай рэканструкцыі слабадской забудовы Пакроўскай вуліцы (цёмным колерам у цэнтры пазначаны існуючы дом М.Шагала). Малюнак А.Міхайлюкова.

КАНТРАМАРКА

# "ФЕМІДА" З СЯКЕРАЙ?

У табелі прафесій ёсць адна, якая насуперак хрысціянскаму запавету — "не судзіце і вас не асудзяць", тым не менш карыстаецца прысудамі. Але адказнасці за іх наступствы людзі гэтай прафесіі звычайна не нясуць. Хто ж яны, людзі такой прафесіі? Тэатральныя крытыкі...

Уласны карэспандэнт газеты "Чырвоная змена" Мая Шэндрык добра засвоіла правы крытыка, але зусім забылася пра яго абавязкі. 9 чэрвеня названае выданне змясціла яе матэрыял пад кідкай назвай "Утаймаванне... Шэкспіра", прысвечаны нядаўнім гастролям Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В.Дуніна-Марцінкевіча ў Мінску. Па крытычным напале і форме мне цяжка аднесці той артыкул да пэўнага жанру. Хутчэй — гэта "ліхаманка", у час якой ужо не да аргументаў. Безадказнасць надзвычайная. Мне яе высновы нагадалі студэнцкі жарт, распаўсюджаны сярод першакурснікаў тэатразнаўчых факультэтаў: "Спектакль не бачыў, п'есу не чытаў, але думку сваю выкажу". З разважанняў М.Шэндрык цяжка ўявіць нават прыблізна асноўныя прынцыпы спектакля, яго вобразны лад, атмасферу, адметнасць рэжысёрскага вырашэння і акцёрскага ўвасаблення. Рэцэнзент, напэўна, лічыць, што ўсё гэта не мае значэння ні для тэатра, ні для чытача. Яе больш непакоіць праблема, чаму "ўсе правінцыйныя тэатры на сваёй гастрольнай афішы аддаюць перавагу "славутым" імёнам-драматургам — Шэкспір, Лопэ дэ Вега, Чэхаў, О'Ніл"... Што ж тут заганнага? І калі класікі паспелі згубіць свой аўтарытэт, што іх цяпер ужо бяруць у двукоссе? Няпоўны адказ знаходзім у наступным крытыкавым "тэзісе" (а тут двукоссі я ўжываю да месца): "Зразумела жаданне тэатра з правінцыі "ўразіць" зб<u>алаваную</u> (падкрэслена мною. — **І.Ч.**) сталічную публіку, аднак... не заўсёды жаданні і магчымасці супадаюць". Супраць такога жадання не магу сказаць нічога кепскага. Паводле рэзюмэ Шэндрык, "бабруйчанам не трэба было "сатрасаць" сталічнага жыхара Шэкспірам", а патрэсці мінчан не "згвалтаванымі" яшчэ тэатрамі ўсіх краін і народаў творамі М.Чарота і М.Гарэцкага, "якія таксама значацца ў рэпертуары і якія з'яўляюцца не меншым гонарам беларусаў, чым Шэкспір усіх зямлян". Дык вось дзе сабака закапаны!

Не падабаецца Фемідзе з "ЧЗ", што бабруйскі спектакль "Утаймаванне свавольніцы" значна ўступае дуэлям "цудоўнай экранізацыі яшчэ адной камедыі Вялікага Вільяма — "Шмат шуму з нічога", — якая ў нечым падобная на "Утаймаванне...". Розніца толькі ў тым, што ў першай героі "ўтаймоўваюць" адзін аднаго, а ў другой "утаймаванне" адбываецца з аднаго боку". "Я падаю", — сказаў бы з нагоды такога пасажу Яўген Крыжаноўскі напрыканцы сваёй тэлепраграмы "Сем хвілін з Хрыстафорам".

Цалкам падзяляю трывогу М.Шэндрык за лёс іншых тэатраў Беларусі, выкліканую беспрэцэдэнтным учынкам дырэктара тэатра Л.Падбярозкінай, якая сама паставіла п'есу О'Ніла "Каханне пад вязамі". Які прыклад яна дае дырэктарам іншых тэатраў? Сёння Падбярозкіна, а заўтра І.Вашкевічу з Нацыянальнага купалаўскага ці Э.Герасімовічу з Акадэмічнага рускага ўзбрыдзе ў галаву паставіць класіка? А мо і за мяжу з імі паедуць?.. Папярэдне абураюся іх зусім магчымым "нахабствам", як абураецца рэальным учынкам кіраўнікоў тэатра з Бабруйска крытык. Мала таго, што паставілі, дык яшчэ прыперліся ў Мінск са сваімі амбіцыйнымі намерамі! Расцягваюць, разрываюць бабруйскі тэатр на часткі! Выкрыццё працягваецца: аказваецца, услед за дырэктарам і галоўным рэжысёрам Г.Несцерам артыстка Г.Падароўская і артыст П.Камінскі вырвалі сабе па сумяшчальніцтву права на абавязкі балетмайстра і асістэнта рэжысёра па пластыцы. Не верыце? Зазірніце ў праграмку да спектакля "Утаймаванне свавольніцы"... Шуфлем грабуць, нахабнікі, "зайчыкі"! Куды толькі глядзіць абласное ўпраўленне культуры?

Самы моцны ўдар сваім пяром-сякерай наносіць наваяўлены крытык па галаве пастаноўшчыка шэкспіраўскай камедыі галоўнага рэжысёра тэатра Г.Несцера: "Усе яго так званыя рэжысёрскія прыёмы маюць доўгую бараду", "калі параўнаць спектакль з аркестрам, то можна сказаць, што апошні быў проста пазбаўлены вопытнага дырыжора".

Не буду, шаноўны чытач, гвалтаваць цябе цытатамі і ironіяй! Зразумела, куды хіліць крытык, і не зразумела, чаму яна замоўчвае ўсё станоўчае, што ёсць у спектаклі бабруйчан. Між іншым, Г.Несцер выбраў малавядомы пераклад камедыі А.Курошавай, які, як лічаць лепшыя шэкспіразнаўцы, "найбольш блізкі і дакладны да арыгінала".

Рэжысёр рызыкнуў паставіць першы акт камедыі, які звычайна ігнаруецца. Ён апавядаў пра горкага п'яніцу медніка Слая, аблашчанага Лордам, а потым выкінутага зноў на вуліцу — у гразь, пад дождж. Па загадзе Лорда яго слугі выказваюць медніку пашаноту, вартую каралеўскай асобы, — у гонар п'яніцы вандроўныя артысты даюць прадстаўленне пра Катарыну і Пятруча. У гэтай сцэне заяўка на тэатральны прыём, важны для драматурга і тэатра.

З гісторыі сцэны вядома, што ў 1939 годзе славуты Ю.Завадскі ажыццявіў пяціактовую пастаноўку камедыі ў перакладзе той жа Курошавай, за што разам з тэатрам быў высланы ў Растоў. Першы акт "Утаймавання свавольніцы" натхніў Е.Міровіча напісаць камедыю "Каваль-ваявода", праўда, са шчаслівым фіналам для Каваля-Слая. Ідэолагам набіраўшага рэальную моц сацыялізму непатрэбны быў такі герой, якому спачатку паабяцалі прыгожую цацку, а пасля адабралі, як толькі ён адчуў сябе асобай. Другая прычына, паводле якой, на маю думку, звярнуўся бабруйскі рэжысёр да варыянту Курошавай, — ён значна адрозніваецца трактоўкай узаемаадносін Катарыны і Пятруча ад ранейшых і адпавядае магчымасцям бабруйскай трупы. Што ж датычыцца "доўгай барады" Несцера, то расце яна ў яго з належнага месца. Задума рэжысёра ўзрасла з мастацкіх прынцыпаў шэкспіравага тэатра "Глобус" з авальнай дэкарацыяй, порцікамі, лесвіцамі, двух'яруснымі іграўымі пляцоўкамі і сімультанным характарам дзеяння. Тут "плагіят" Несцера апраўданы.

Вымушаны на гэтым спыніцца, таму што Шэндрык не адзінокая ў сваіх прэтэнзіях. Шмат каго і з нашых каранаваных крытыкаў не задавальняюць касцюмы А.Нікіфаравай, а акцёрскае ўвасабленне не адпавядае іхняму ўяўленню аб італьянскім характары. Нічога заганнага не бачу ў сцэнічных строях бабруйчан, падказаных палотнамі Пітэра Брэйгеля Мужыцкага. Чаму абавязкова за ўзор акцёрскага пражывання трэба браць неўтаймаваны тэмперамент Л.Касаткінай і высакародную паставу А.Папова са славутага спектакля ЦТСА? Іншая рэч, што Несцер, скарыстаўшы закладзены аўтарам прыём "тэатра ў тэатры", не да канца яго вытрымлівае. Але ў яго хапіла фантазіі знайсці вобраз хуткацечнасці часу, што ўзнікае падчас спрэчкі Катарыны і Пятруча, пра тое, якое зараз свяціла на небе — Сонца ці Месяц? Апраўдана логікай першага акта і з'яўленне ў фінале гісторыі закаханых Слая і гаспадыні харчэўні.

Рэпліка ж М.Шэндрык пра "фальшывае сола" артыстаў выклікае ў мяне сустрэчнае пытанне: "Чаму ў Нацыянальным купалаўскім тэатры "бельканта" гучыць Астроўскі і не гучыць той жа Шэкспір і Чэхаў?" Можа, прычыну гэтай з'явы трэба шукаць не ў "салістах", а ў рэаліях нашага быцця? Так што я ніяк не магу кіравацца пафасам артыкула М.Шэндрык, быццам бабруйскі тэатр плюхнуўся ў чужыя санкі. Спектакль правінцыялаў атрымаўся не пра тое, хто каго ўтаймоўваў, а пра перамогу Катарыны, гэтай мяккай, кволай і жаноцкай "ведзьмы", над героем-палюбоўнікам Пятруча, які растрачваў сябе ў шматлікіх любоўных уцехах, не зведаўшы сапраўднага кахання.

Здыміце, шаноўная спадарыня Мая, павязку з вачэй і памяняйце сякеру на шалі! Не трэба расчляняць мастацтва і гледачоў на правінцыйнае і сталічнае! І дай Бог бабруйскаму тэатру часцей рабіць такія набегі на сталіцу!

**Іван ЧАРКАС.**

і славяць абуджаную, расквітнелую зямлю, радасць жыцця і радасць працы.

Радасна, калі выступае сівы васьмідзесяцігадовы Станіслаў Маленчык, самавук і віртуоз ігры на скрыпцы і губным гармоніку, чалавек-аркестр. Яшчэ святлей



робіцца, калі на сцэну выходзяць дзеці — мінскія і гарадзенскія "Дударыкі", дзіцячы фальклорны гурт з вёскі Збураж або такі ж гурт з Міханавічаў.

Ёсць, аказваецца, захаваліся на Беларусі матачнікі беларушчыны. Ёсць калектывы, якія могуць, павінны стаць экспартным культурным таварам за мяжу. Мо з-за гэтага, невыпадкова, гасцямі фестывалю былі высокія асобы пасольстваў ЗША, Венгрыі, Украіны, Міжнароднага Савета па арганізацыі фальклорных фэстаў?

Так, найперш гэта быў усебеларускі фестываль народнай творчасці, але яго вельмі добра дапоўнілі і зрабілі — без нацяжкі — міжнародным у поўным сэнсе гэтага слова фальклорныя гурты з-за мяжы. Іх было 9. А найбольш яркімі, са сваім нацыянальным каларытам падаліся фальклорны калектыў "Маркело" з Нідэрландаў, фальклорны ансамбль інструменталістаў "Талары" з Фінляндыі, гурт сяла Афанасьеўка Белгародскай вобласці (Расія), ансамбль танца "Любліняты" з Польшчы.

Прыемна было бачыць: гадзіна ночы, холад, пэўныя нязручнасці, а людзі стаяць і глядзяць, слухаюць, суперажываюць, смяюцца, падпяваюць ды апладзіруюць, не шкадуючы далоняў. А на агульнай вялікай сцэне (баржы на рацэ Піна) штовечар сапраўды адбываліся дзейства-чарадзейства...

Наша газета (N 25 ад 15 чэрвеня і N 26 ад 29 чэрвеня) друкавала пад агульнай назвай "Што край — то звычай..." невялічкія нататкі пра найбольш цікавыя фальклорныя калектывы, якія бралі ўдзел у фестывалі, таму паўтарацца не буду. Яны і сапраўды выступілі вельмі хораша. Адно дадам: шмат што можна было пабачыць і пачуць, а значыць, у нейкай ступені адчуць атмасферу і квяцістасць гэтага свята, паглядзеўшы БТ 29 і 30 чэрвеня (перадачы "Траецкі вянок" і "Галасы вякоў"). Яшчэ дзве тэлеперадачы пра фестывальны феерверк чакаюць аматараў народнай творчасці 9 і 10 ліпеня. Глядзіце і слухайце!

І яшчэ штрышок. Фестываль не ператварыўся ў футбольна-алімпійскае спаборніцтва, хто лепшы, хто мацнейшы. Многія калектывы вытрымалі высокія патрабаванні гурта аўтэнтычнага —там і касцюм адпавядаў рэгіёну, і рэпертуар быў сапраўды глыбокі і народны. На жаль, часам побач з высокамастацкімі ўзорамі традыцыйнай культуры трапляліся зацяганыя нізкапробныя шлягеры.

На фестывалі не было лаўрэатаў, пераможцаў і пераможаных. Кожны ўдзельнік атрымаў дыплом, а гурты — падарункі. А ўсе мы разам — свята.

## АМЕРЫКАНЦЫ БУДУЦЬ ТАНЦАВАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

Таццяна Кудраўцава, дзіцячы неўролаг, прыехала спецыяльна на фестываль з Філадэльфіі. Славянскі фальклор, асабліва танцы, для яе не проста хобі, не проста другі занятак, а сэнс гарманічнага пачування сябе як асобы ў складаным і, на жаль, не надта камфортным сучасным свеце. Яна нарадзілася ў Празе, а вось маці спадарыні Таццяны, Ганна Ліхадзіеўская, — лічыце, наша зямлячка, з Трокаў, жыла і вучылася ў Мінску. У Філадэльфіі пры праваслаўнай царкве спадарыня Таццяна арганізавала гурт дзяцей 10 — 12 гадоў, якія нядаўна прыехалі з Расіі і Украіны, і развучыла з імі вясёлы ўкраінскі танец ды "Баярскую світу".

Неяк паказалі танцы амерыканцам і літаральна запалілі іх — юныя амерыканцы тут жа запрасіліся ў студыю да спадарыні Таццяны, каб навучыцца танцаваць гэтак жа прыгожа і непаўторна. Увосень, калі ўсе збяруцца, кіраўніца хоча прапанаваць сваім выхаванцам засвоіць два польскія танцы: "Кракавяк" ды "Паланез".

— Але цяпер наш рэпертуар, безумоўна, пашырыцца, — задаволена ўсміхаецца спадарыня Таццяна. — Я так многа пабачыла на фестывалі ў Пінску, зняла на відэакасеты, вывучыла ад старых і маладых. Дагэтуль беларускага фалькмастацтва я не ведала.

Асаблівая прыязнасць у Таццяны Кудраўцавай да фальклорна-этнаграфічнага ансамбля "Неруш" (Белдзяржуніверсітэт) ды пажылых танцораў з вёскі Аляксандраўка (Старадарожскі раён).

— Для мяне няма цяпер пытання, ці варта было ехаць, — распавядае госця з Амерыкі. — Канешне, варта: і не шкада патрачанага часу, не шкада вялікіх грошай. Я агаломшана колькасцю людзей, песняў, танцаў. На міжнародных фестывалях бывала не раз — там звычайна столькі ўсіх удзельнікаў, колькі тут — калектываў. Вельмі ўражана і ў захапленні, што танцуе так многа хлопцаў. Разам з дарослымі многа прыгожых і вельмі таленавітых дзяцей. Асобныя дзіцячыя калектывы такія сімпатычныя!

А для прэсы хачу зазначыць: гэты фестываль, як мне здаецца, паказаў не толькі эстэтычныя і нацыянальныя дасягненні. Ён паказаў на асноўнае — на самаўвагу і самапавагу. З беларускай мовай асабліва праблем не было: я гавару па-руску. Праўда, усе казалі: цікава, цікава, я не ведала, што гэта азначае.

— Дык Вам было цікава?

— О так!

**Алена ТРУСАВА.**



*На здымках:*

1. "Мы кудзелю пралі, пралі..." Юныя ўдзельнікі фальклорна-этнаграфічнага гурта вёскі Ставок (Пінскі раён).

2. Прывітанне з Нідэрландаў! (фальклорны гурт "Маркело").

*Даўно вядома: час зваротнага кірунку не мае. І, здавалася б, наіўна спрабаваць прадугадаць, што было б, калі б... Тым не менш, у дачыненні да Міколы Равенскага гэта хочацца рабіць. Каб жа больш спрыяльным быў да яго жыццёвы лёс! Колькі б музычных твораў напісаў бы гэты надзіва таленавіты чалавек! Свядома не гавару "таленавіты кампазітар", у чым сумнення быць не можа. Не гавару, бо М.Равенскі з'яўляўся, як кажуць, усебакова таленавітым. І як чалавек, і як творца. Прытым не толькі як кампазітар, а і як даследчык музыкі. У нейкай ступені і як тэарэтык яе. А да ўсяго — у ягоным таленце праяўляліся і задаткі палеміста, у чым пераконвае гэты артыкул, што быў у свой час апублікаваны на старонках часопіса беларускага замежжа "Баявая Ускалось". Магчыма, у чымсьці і празмерна аўтар надае ўвагі ўласнай асобе. Магчыма... Але ўявім сабе становішча, у якім апынуўся М.Равенскі. Адарванасць ад Бацькаўшчыны, немагчымасць працаваць так плённа, як табе хочацца. Адным словам, услухаемся ў голас аднаго з нашых самых цудоўных кампазітараў. Жыццё фізічнае ў яго абмежавана гэтымі дзвюма лічбамі: 1886 — 1953. Жыццё ж у нашай памяці, памяці нашчадкаў, думаецца, будзе вечнае. Дык адкрыем яшчэ адну грань творчасці М.Равенскага!*

*Алесь МАРЦІНОВІЧ.*

# КРЫХУ ПРА БЕЛАРУСКУЮ ОПЕРУ

Мікола РАВЕНСКІ

**АД РЭДАКЦЫІ: Гэты артыкул паважанага нашага музыкі М.Равенскага быў дасланы ў рэдакцыю "Б.У.", пасьля таго, як ня быў зьмешчаны ў газэце "Бацькаўшчына" ў сувязі з яе рэдкімі выхадамі. Зьмяшчаем яго тут, хоць і спозьнена, у перакананьні, што кажны мае права выказаць свае погляды і думкі.**

У N 1 (45) "Бацькаўшчыны" (1949 г.) зьмешчаны артыкул М.Куліковіча пад загалоўкам "100 год беларускае опэры (1848 —1948)". На жаль, у тым артыкуле ёсьць рад недакладнасьцяў, каторыя ў пэўнай меры дэзарыентуюць чытача, які цікавіцца дадзеным пытаньнем, але незнаёмы із запраўдным станам рэчаў. Таму, як асоба, для якой кроўнай блізкія гэтыя пытаньні, я лічу за свой абавязак падаць тут некаторыя выясьненьні і ўдакладненьні.

Напачатку, што да паходжаньня самое опэры, як формы, з чаго пачынаецца артыкул М.Куліковіча.

Вывучэньне разьвіцьця опэрнага мастацтва агульнаэўрапэйскімі музыкамі-гісторыкамі паказвае, што карэньне опэрнае музыкі трэба шукаць у царкве. Крыжавыя пакуты Ісуса Хрыста, спачатку — тэма царкоўных казаньняў, паступова пачалі й драматызавацца, даючы аснову рэлігійных, царкоўных паказаў. Гэтыя паказы пакутаў Спаса паступова разьвіваліся і набывалі свае формы (містэрыі, араторыі*). Музыкалізацыя гэтых формаў і прыводзіць да паўстаньня опэры. Шукаць-жа карэньне разьвіцьця опэрнага мастацтва ў народных карагодах, як гэта робіць М.Куліковіч, не адказвае запраўднасьці. Гульні ў карагод (дарэчы, у нас карагод "гуляюць", а ня "іграюць", як падае Куліковіч) — гэта народнае зьявішча пазьнейшых часоў, маладзейшае. З другога боку, яны маглі-б даць ёй толькі хіба мікраскапічны зародак для разьвіцьця опэры, і нарэшце, наагул карагод ніякім чынам, дзеля свае ізаляванасьці ад тагачаснага культурна-музычнага сьвету, ня мог узьдзеіць на разьвіцьцё фармальнага опэрнага мастацтва. Крыжавыя пакуты Хрыста-Спаса, драматызаваныя і музыкалізаваныя, проста перарасьлі ў опэру самым прыродным і гістарычна-засьветчаным парадкам. Адсюль пачынаецца разьвіцьцё опэры ў Італіі, а пасьля і ў іншых краёх, як у Нямеччыне, Францыі й інш.

Цяпер што да нашае першае "опэры" "Сялянка". Захоплены арыгінальным сюжэтам твору В.Дуніна-Марцінкевіча, знаны ў тых часох кампазытар С.Манюшка музычна аформіў яго. Але гэтым сваім афармленьнем ён і сам быў незадаволены, бо ягоныя імкненьні стварыць опэру не прывялі да жаданае мэты. Самы назоў "опэра" тут трэба больш разумець у сэньсе "апэрэта", — тэрміны, якія даўжэйшы час дакладна не разрозьніваліся ў ужываньні ("апэрэта" — спачатку проста "малая опэра"). Такую "апэрэту" і стварыў фактычна Манюшка, зьвязаны з італьянскімі музычнымі традыцыямі і далёкі ад разьвіцьця нямецкага й ягоных "зынгшпіляў", форму якіх прабуе накінуць яму М.Куліковіч. Паказ гэтае апэрэты ў Менску адбыўся не прафэсійнымі сіламі, але аматарскімі і таму яго нельга назваць "першым прафэсійным музычна-тэатральным спэктаклем", як гэта робіць М.Куліковіч. Сакрэт-жа захапленьня публікі гэтым спэктаклем тоіцца найбольш у тым, што тут упяршыню роднае беларускае слова й мэлюдыі былі паданыя із сцэны ў музычным афармленьні.

Крызу пазьней Ст.Манюшка ўзяўся за працу над опэрай "Галька", у якую скарыстаў ладную колькасьць музычных нумароў ад папярэдняе свае працы "Сялянка". Гэтая праца сваей музычнай пабудовай ужо цалкам адпавядала назову опэра. Але і гэтая вялікая праца кампазытара стаяла пад выдатным уплывам вельмі моцнага опэрнага італьянскага стылю, які ў тых часох панаваў у Эўропе наагул. Пра працу-ж Ст.Манюшкі над творамі "Гапак", "Вечарніцы", трэба шчыра прызнацца, мы чуем упяршыню ад М.Куліковіча. Добра было-б, каб ён падаў тыя крыніцы, на якія грунтаваўся, пішучы пра гэтыя быццам-бы "зынгшпілі" Манюшкі. "Залёты" В.Дуніна-Марцінкевіча ведамыя дасюль толькі ў музычным афармленьні М.Кімонт, што крыху наблізіла гэты "фарс-вадэвіль", як называе яго аўтар, да формы опэрэткі. Сіламі аматараў адбыўся паказ толькі адзін раз у Вільні ў 1915 г. Сваім характарам, зьместам самога тэксту й музычным афармленьнем твор гэты ня можа быць уключаны ў гісторыю разьвіцьця чыста опэрнага мастацтва, а належыць да гісторыі разьвіцьця мастацтва апэрэтачнага. Дарэчы, сама Марыя Кімонт — летувіская кампазытарка, сучасьніца нашых "нашаніўцаў", якія і выкарысталі яе, як фаховую музычную сілу для афармленьня твору В.Дуніна-Марцінкевіча, крыху падрэдагаванага Янкам Купалам. З тэксту-ж Куліковіча можа стварыцца ўражаньне, быццам-бы асоба М.Кімонт належыць "гісторыі беларускай музыкі... другой паловы XIX стагодзьдзя".

Недакладны М.Куліковіч і ў інфармацыі пра творы паэты М.Кудзелькі (толькі пазьней ён пачаў ужываць псэўдонім "М.Чарот") і кампазытара Ул.Тэраўскага, які меў назоў "На Купальле" (а ня "Купальле", як называлася пазьнейшая пераробка яго М.Туранковым). Створаная на народным фальклёры, у паказе выдатнага рэжысэра А.Міровіча, рэч гэтая карысталася надзвычай вялікім посьпехам — сэзон вытрымаў больш за 100 паказаў. Але ня гледзячы на такі вялікі посьпех, на чыста нацыянальны характар і беспасярэднясьць ды глыбіню адчуваньня й разуменьня кампазытарам роднай сялянскай песьні, "На Купальле" ніяк нельга прызнаць за заснавальніка "беларускае нацыянальнае школы (кірунку)", як піша М.Куліковіч. Тут мы маем толькі кірунак глыбокага і шырокага нацыянальнага пачуцьця, і гэта той галоўны пэрл, дзякуючы якому твор меў такі вялікі посьпех. Параўнаньне "На Купальле" з "Наталкаю Палтаўкаю", якое выдаецца М.Куліковічу "вельмі ўдалым", на маю думку, больш было-б намесцы ў дачыненьні да тае "Сялянкі", пра якую ён галоўна і меўся пісаць — і час напісаньня, і гістарычнае месца і нарэшце, жанр давалі-б больш падставаў да гэтага параўнаньня (дарэчы, просты ўплыў тэксту "Наталкі Палтаўкі" адчуваецца на вадэвілі "Пінская шляхта" таго-ж Дуніна-Марцінкевіча).

Піша М.Куліковіч і пра маю з Ул.Дубоўкам працу над стварэньнем опэры "Браніслава", што вялася ў 1929 — 1930 гг., а ніяк ня ў 1932 г., як падае ён (арыштаваны ўлетку 1930 г., Ул.Дубоўка ад таго часу зьнік для беларускага грамадзянства; ведама, што ў 1932 г. ён адбываў якраз ссылку ў гор. Яранску, б. Вяцкай губ.). Маё, дый, здаецца агульна прынятае разуменьне аўтарскае сьціпласьці зразумелым чынам не дазваляе мне ўдавацца ў характарыстыкі ці сцэны собскага твору. Не ўдаваўся-б я ў іх навет тады, калі-б тварыў сваю рэч пад нейкім іншым псэўдонімам. Не магу аднак не адзначыць чыста-аб'ектыўнага факту, што "Браніслава", храналёгічна бяручы, была якраз першай спробай стварэньня беларускае нацыянальнае опэры — якраз і НАЦЫЯНАЛЬНАЙ, і ОПЭРЫ. Але што асабліва прыкра рэзанула маё вуха, дык гэта тое, кажучы па-расейску, "снисходительное похлопывание по плечу", якое ўжыў М.Куліковіч ў дачыненьні да майго супрацоўніка і даўгагодняга шчырага прыяцеля Ул.Дубоўкі, надзяляючы яго звысака эпітатам "малады таленавіты паэта". Яшчэ пасьля першых выступленьняў Ул.Дубоўкі ніхто іншы, як сам Янка Купала, заявіў публічна пра яго яму-ж: "Я — Дзяржавін, а ты —Пушкін". А ўжо хіба тады хто-хто, а Купала меў-бы права да такога "похлопываньня по плечу" "маладых таленавітых паэтаў"... У часе-ж стварэньня "Браніславы" Дубоўка быў у самым росквіце й разьвіваўся зусім у кірунку апраўданьня таго Купалавага прароцтва-прывітаньня. У тым-жа часе выдатны расейскі знавец мастацтва Keржанцаў, азнаёміўшыся з творам Ул.Дубоўкі "І пурпуровых ветразей узьвівы", прызнаў у аўтара "задаткі геніяльнасьці" (гэта, здаецца, найбольш і заважыла на пазьнейшай долі Ул.Дубоўкі й ягонай ліквідацыі бальшавікамі). Створаны Ул.Дубоўкам, зусім не малы лік твораў, хоць нажаль мала ведамых сучаснаму чытачу, забясьпечвае яму адно з першых месцаў на нашым мастацкім пантэоне й пратэстуе само супраць зьдзеклівага дароўваньня запраўды вялікаму нашаму паэту вучнёўскіх тытулаў "маладога таленавітага"...

І яшчэ адна, не бяз прыкрасьці, недакладнасьць тут: М.Чарот, які ў М.Куліковіча абвешчаецца "замардаваным" бальшавікамі разам з Ул.Дубоўкам, зарыштаваны на 6 год пазьней за яго (у 1936). Увесь час камуністы М.Чарот ці мала "граміў" беспартыйнага ўзвышэнца Ул.Дубоўку да ягонага арышту і "кляйміў" пасьля, а сам папаўся пад бальшавіцкую мятлу толькі "ў парадку ліквідацыі" камуністых-беларусаў. Ставіць гэтыя дзьве постаці побач у вадным радзе бальшавіцкіх ахвяраў не выпадае...

Нарэшце, ня можна згадзіцца з паглядамі М.Куліковіча, быццам сучасныя савецкія "беларускія" кампазытары стварылі нацыянальныя беларускія опэры. Опэра "Аўген Анегін" Чайкоўскага сваім музычным стылем зусім не падобная да, прыкл., італьянскае опэры, якая мае свой стыль — маскоўскі. Але так званыя нацыянальныя опэры савецкіх кампазытараў, навет пры выкарыстаньні імі народнае беларускае мэлюдыі, не вызначаюцца ніякім адменным ад "агульна-расейскага" ці "агульна-савецкага" нацыянальным стылем. Зусім не даволі надаць тэй ці іншай опэры нейкага нацыянальнага "арамату й калярыту". Гэта рэчы часта павярхоўныя. "Арамат" заўсёды і ўсюды існуе толькі для носа, сытым ад аднаго "арамату" чалавек ніколі ня будзе. Тут дарэчы было-б успомніць таго-ж Ул.Дубоўку, які сваім часам добра сказаў пра гэтую зьяву:

*"... А дух трымаем на галоднай норме,*
*А дух скарынкаю эпігоннай сыты..."*

Гэткія "эпігонныя скарынкі", крыху папырсканыя слабымі парфумамі "нацыянальных араматаў", толькі можа й можна бачыць у савецкіх "беларускіх" опэрах, як і ў іншых творах духова паняволеных, а нацыянальна найчасьцей чужых Беларусі савецкіх "беларускіх" мастакоў.

**"Баявая Ускалось", N 3, 1950.**

**Публікацыя Алеся МАРЦІНОВІЧА.**

---

* *Між іншага, падобныя царкоўна-рэлігійныя паказы часткова ёсьць і ў праваслаўнай царкве г.зв. пасіі ("умавеньне ног" — архірэйская служба, што адбываецца нядзельнымі днямі Вялікага Посту).*

# ХОФМАН & ХОФМАН



Чыё жыццё разыгрываюць перад намі акцёры шэрагам сваіх персанажаў? Ці не сваё? Ці не асабісты лёс шамаціць рэквізітам за кулісамі і мігціць у зменлівым свеце кінапраектараў?

Ад Лёсу і адзіноты ў гэтым нядобрым свеце няма куды падзецца героям Дасціна Хофмана. Хай гэта будзе гангстэр альбо смяротнік, беспрацоўны мастак альбо выпускнік коледжа, кульгавы валацуга альбо шпік, журналіст альбо ахвяра нацыстаў. Хай ён — хто заўгодна. Столькі вобразаў у мастацтве і толькі адзіны вобраз у жыцці!

Дасцін Хофман нарадзіўся ў Лос-Анджэлесе 8 жніўня 1937 года.

Дасцін лос-анджэлескага перыяду свайго жыцця быў тыповым вулічным хлапчуком, якіх і зараз поўна на вуліцах бядняцкіх кварталаў Чыкага, Нью-Ёрка, таго ж Лос-Анджэлеса. Тады саюзы падлеткаў мелі назву Pachuchos (мексіканскае слова, азначае маладыя гангстэры). Была мода мець пры сабе "для бяспекі" нож, які прывязвалі да нагі. Шчыра кажучы, шматлікія бойкі, якія ўспыхвалі з нагоды і без яе, Дасцін лічыў за лепшае назіраць збоку, а не ўдзельнічаць у іх. Але ж увагу да сябе ён прыцягваў. "З ранняга дзяцінства я памятаю, як людзі вечна таўкліся вакол мяне і пацяшаліся з мяне. У мяне нават мянушка была — Сметнік. Тут я нагадваю персанажы Джорджы Солаўэй, Бэйб, Ленні Брус (не рэальны, а створаны Хофманам у фільме "Ленні"), прайдзісвет Дэльга з фільма "Мятлушка". Гэтыя вобразы — помста за ўсе колішнія крыўды, знявагі, вымушанае пазёрства. Перамога над крыўдзіцелямі трансфармавалася ў цудоўны па эмацыйнаму напалу і псіхалагічнай вытанчанасці фон — падтэкст падзейных перыпетый. Ніхто болей з раўналеткаў Хофмана (Джэк Нікалсан, Уорэн Біці, Роберт дэ Ніра, Аль Пачына) не прыўнясе ў свае ролі столькі асабістых пачуццяў, жыццёвых сітуацый і выпадкаў.

Скончыўшы пачатковую школу, Дасцін паступае ў кансерваторскі коледж у горадзе Санта-Моніка. Здавалася, фактычна выбар зроблены: ён стане прафесійным піяністам.

Але хутка ён зразумеў, што гэта справа не яго жыцця.

На пачатку 60-х гадоў Дасцін Хофман быў залічаны ў Плэйхаўс, што ў Пасадэне. Плэйхаўсамі ў ЗША называліся "малыя тэатры" (рэпертуарныя, агульнадаступныя). Хаця і займаўся Дасцін у дырэктара тэатра Барні Браўна, ён не набыў аніякіх ведаў у галіне мастацтва пераўвасаблення. Праз год ён пакінуў Санта-Моніку з некалькімі далярамі ў кішэні і наказам Барні Браўна: "... але без тэатра табе не абысціся". Дасцін пераязджае ў Нью-Ёрк. Там працаваў і санітарам у псіхіятрычнай клініцы, і гандляром дзіцячай цацкай у вялікім супермаркеце, і ў аддзеле некралогаў часопіса "Таймс"... Вядома, што за кватэру, ежу, тэлефон, урокі сцэнічнага майстэрства трэба плаціць не толькі ў Амерыцы. Бацькі ж Дасціна высылалі яму штомесяц па дзвесце даляраў, якіх ледзь хапала. За чатыры гады жыцця ў Нью-Ёрку з 1959 года ў Дасціна было ўсяго чатыры выхады на прафесійную сцэну.

І толькі ў 1965 годзе роля Дасціна ў п'есе Рональда Рыбмэна "Гары і апоўдні і апоўначы" выклікаў увагу крытыкаў.

Але тэатраў у ЗША незвычайнае мноства, яшчэ болей акцёраў, у тым ліку і таленавітых. Аднак Майкл Нікалс запрасіў Хофмана на пробы да фільма "Выпускнік".

У год трыумфальнага кінематаграфічнага шэсця ў Галівудзе сярод шматлікіх сцэнараў яму быў прапанаваны і "Паўночны каўбой". Ад гэтага сцэнара Уолда Солта грэх было адмовіцца. Гэта роля стала паваротнай у акцёрскім лёсе Хофмана. Назаўтра, як і заўсёды адбываецца нараджэнне зоркі, ён прачнуўся адным з вядучых акцёраў новай хвалі Галівуда.

Нам з вамі найбольш вядомы стужкі з удзелам Дасціна — "Крамэр супраць Крамэра" (1978 г.), рэжысёр Роберт Бентан, і "Тутсі" (1982 г.), рэжысёр Сідней Полак. Партнёрамі Хофмана былі вядомыя зоркі амерыканскага кінематографа — Мэрыл Стрып, Джэсіка Ланж.

Натуралёва, "невідовішчна" іграюць акцёры ў бытавым фільме "Крамэр супраць Крамэра". Просты сюжэт фільма аб распалай сям'і, аб намаганнях бацькі самастойна выхоўваць свайго сына прынёс прыбытку 60 мільёнаў даляраў, але ж ён стаў і лаўрэатам пяці "Оскараў": за лепшы фільм, за лепшую рэжысуру, за лепшы сцэнарый, за лепшае выкананне мужчынскай і жаночай роляў!

Трэба сказаць, што сцэнарый гэтага фільма зноў адпавядаў біяграфіі лёсу акцёра. "Я пражываў гэты фільм як рэальнае жыццё. Гэта было нясцерпна. Думаю, гэты фільм — самы моцны мой іспыт", — з цягам часу ўспамінаў Хофман.

І ўсё ж Дасцін Хофман — гэта акцёр, якому наканавана чакаць. Чакаць свайго часу, героя, свой фільм, сваю ролю. І калі мы сёння гаворым, што ў сучасным амерыканскім кіно пануюць вобразы Рокі і Рэмба, то да нацыянальнага традыцыйнага ўяўлення "амерыканскага персанажа" адносім Дасціна Хофмана, а "новую хвалю" другога пакалення Акадэмія кінамастацтва Галівуда называе хофманаўскай.

Падрыхтавала
Жанна ВАСАНСКАЯ,
паводле замежных крыніц.

